Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.



# Беларускі Селянін

АДНАДНЁЎКА

Вільня, пятніца, 14-га жніўня 1925 г.

## На двух канцох.

На двух процілежных канцох Беларусі— крайнім захадзе і крайнім усходзе — здаўна расцьвітаюць два найвялікшыя ў нашай Бацькаўшчыне прамысловыя цэнтры: *Беласток* і *Бранск.* Першы — ля самае этнаграфічнае граніцы Беларусі з Польшчай, другі—пад бокам Маскоўшчыны.

І адзін, і другі нашы заходнія і ўсходнія суседзі лічаць „сваім“. І адзін, і другі маюць вонкавы выгляд – небеларускі. Работніцкія масы Беластоку пад уплывам польскіх сацыялістычных павадыроў сваіх, хоць і зложаныя з выхаджэнцаў з беларускае вёскі, лічылі сябе заусёды часткай польскага пралетарыяту. Так сама працоўныя Бранску і ваколіц яго аказаліся пад вялізарным уплывам расейшчыны і ішлі на павадзе Масквы.

Але вось у жыцьці *сялянскае* Беларусі сталіся вялікія перамены. Беларускі адраджэнскі рух, які сьпярша быў абняў бадай выключна вёску, памалу пранікаў і ў места, ператвараючыся ўсё больш у *вызваленчы рух працоўных наагул—ад сахі і ад фабрычнага станка.* Прабудзіўшаяся нацыянальна вёска пачала слаць у места ўжо *сьвядомых* сыноў сваіх. І паняцьце беларускага адраджэньня з паняцьця адраджэньня толькі роднае культуры сталася паняцьцем адраджэньня також *палітычна-сацыяльнага* беларускіх працоўных масаў.

Усё выдатнейшае ўчасьце ў беларускім руху прыймае мястовы работнік, — той, што іграе найбольш чынную ролю ў-ва ўсіх палітычных і сацыяльных рухах наагул І мы бачым водгукі гэтага на гэных далёкіх адзін ад аднаго беларускіх акраінных прамысловых цэнтрах, аб якіх мы сказалі напачатку. І ў Беластоку і ў Бранску, якіх аддзяляе адлежнасьць у 700 вёрст і гранічны кардон, выразна *пачынае біцца беларускае сэрца.*

Мы добра памятаем сёлетні першы май у Беластоку. Мы памятаем, з якім энтузіязмам сустракалі тамтэйшыя работніцкія масы выбранцаў беларускае вёскі — нашых соймавых дэпутатаў, барацьбітаў за вызваленьне працоўных і вёскі, і места. І мы памятаем, з якой варожасьцяй аднясьліся да іх прадстаўнікі польскіх сацыялістаў—пэпэсаў і... польскае адміністрацыі! І адных і другіх у роўнай меры ўзбурыла гэтая *праява беларускасьці* ў „чыста польскім“ Беластоку....

А вось у канцы гэтага нумару мы друкуем паданую „Савецкай Беларусяй“ і перадрукаваную „Krynicaj“ карэспандэнцыю аб *„Беларускім Дню“* ў *Бранску,* які дагэтуль навет яшчэ не далучаны да Радавае Беларусі і ўваходзе ў Склад Радавае Маскоўшчыны. І там, пад чырвонай уладай работнікаў, бачым яшчэ больш якрае выяўленьне беларускасьці—выяўленьне яе ў чырвонай арміі, зложанай з бранскіх работнікаў і акалічных сялян.

Так на абодвух канцох нашае Бацькаўшчыны разгараюцца *два вогнішчы беларускага работніцкага руху,* як *дзьве вартоўні адзінства Працоўнае Беларусі.*

## 30-лецьце са дня сьмерці Фрыдрыха Энгельса.

5 жніўня скончылася 30 гадоў са дня сьмерці Фрыдрыха Энгельса, які разам з Карлам Марксам паклаў падставы так званаму „навуковаму сацыялізму“, распрацаваўшы яго ў цэлы шырокі, складны і ўсёахопліваючы сьветапагляд.

Гэтая філязафічна-ўсёахопліваючая веда ў-ва ўсіх галінах сучаснай навукі і адрозьнівала Энгельса ад яго таварыша і прыяцеля Маркса, розум якога быў наадварот больш аднабока-матэматычны і актыўна практычны баявы, ды сканцэнтраваўся ў ізучэньні эканамічных і сацыяльных зьявішчаў, пагардліва адкідаючы ўсялякую „літэратуру“ і „філязофію“, каб з гэтага ізучэньня вывясьці праграму і тактыку новага змаганьня выходзячай на гістарычную арэну клясы працоўных.

Энгельс, наадварот, узяў на сябе якраз апрацаваньне гэтага сьветапагляду сацыялізму, як агульнай навукова-філязафічнай сыстэмы.

Веда Энгельса літэральна ў-ва ўсіх галінах навукі была запраўды зьдзіўляючая. Але цікава адзначыць, што Энгельс усю гэтую веду здабыў сабе сам—самавукам. Ён сам любіў жартам казаць, што праз усё жыцьцё ня здаў ніводнага экзамену!

Вось, што паміж іншым пісаў аб Энгельсе ведамы правадыр аўстрыйскіх сацыялістаў, Адлер зараз-жа пасьля яго сьмерці ў 1895 годзе:

„Энгельс быў як быццам выліты з аднаго куска сталі. Вучоны, барацьбіть, чалавек былі ў ім зьліты ў адзіную магутную і чаруючую асабістасьць. Найвышэйшае разьвіцьцё мысьлі, найэнэргічнейшая воля лучыліся з сэрцам, пламенна кахаючым справу абяздоленых працоўных.

„Як Карл Маркс быў найвялікшым тэарэтыкам сацыял-дэмакратыі, так Энгельс быў першым і найвялікшым кіраўніком яе аб'яднанай міжнародавай тактыкі.

„Адносна да вялікіх людзей істнуе толькі адна запраўдная ўдзячнасьць да іх: гэта—вучыцца ад іх розуму і вясьці далей іх вялікую працу. Дык вось, пралетарыят усіх краёў добра паказаў усяму сьвету сваю ўдзячнасьць да сваіх першых і найвялікшых павадыроў, што ён умее быць ім удзячным. І памятнікам ім абодвум, які ён паставіць на векі вякоў, і будзе **вызваленьне клясы працоўных**“.

## Замах на самастойнасьць беларускае культуры.

Агульны і заўсёдны напрамак польскай палітыкі ў адносінах да беларусаў—гэта дэнацыяналізацыя на карысьць апалячываньня. Правыя партыі імкнуліся да гэтага шляхам рэпрэсіяў і гвалтаў; левыя-ж дарогай нібы—сужыцьця з беларусамі, каб апошнія, пакахаўшы польскасьць, лягчэй апалячываліся, як гэта было з беларускімі панамі і магнатамі ў мінулыя сталецьці—словам, левыя хочуць спольшчыць беларусаў „podstępnie“.

Першы спосаб—спосаб правых, які быў з поўнай сілай ужыты ў адносінах да беларусаў—з тэй думкай, што гэткім чынам „за 50 гадоў ані воднага беларуса і з сьвечкай знайсьці ня можна будзе“, — быў адбіты беларускім народам, з поўнай сілай, энэргіяй і сьвядомасьцяй.

Бачучы гэта, урад наважыўся ўжыць яшчэ і другі спосаб—спосаб левых (можа, у выніку паразуменьня ўраду з П.П.С. з „Вызваленьнем“, бо гэта якраз і пачалася з „слаўных“ часоў „урадаваньня“ п. Тугутта!).

Вось і былі сфабрыкаваны гэтак-званыя „языковыя законы“, мэтаю якіх апрача баламучаньня заграніцы і зьяўляецца палянізацыя беларускіх дзяцей у „ўтраквістычных“ (двуязычных) школах. Але, каб палянізацыя была больш пэўная, міністэрства Асьветы ўводзіць у гэтыя школы **лацініку**, што зьяўляецца першай ступенькай у кірунку апалячываньня; гэтая-ж лацініка ўсімі сіламі ўпіхаецца вучыцельству на „беларускіх“ вучыцельскіх курсах у Вільні. Усё — з тэй-жа мэтай апалячываньня.

За гэтую „ідэю“ п. Міністра асьветы багаславіць уся правая шовіністычная польская прэса. „Słowo“ віленская газэта абшарнікаў у № 178 вельмі раіць беларусам трымацца лацінікі, бо, кажа, у кн. Літоўска-Рускім (чамусьці аўтар ня хоча ведаць, што гэта было кн. Літоўска-Беларускае!) кірыліца была афіцыяльным пісьмом, усё ж гэта нічым ня можа зьвязаць цяперашняй Беларусі з мінулай, бо паміж імі—вялікі перарыў часу. І, кажа далей аўтар (п. Смрэчынскі), „расейскія“ літары могуць служыць „аружжам русыфікацыі“, а незнаёмасьць з гражданкай забясьпечыць Заходнюю Беларусь і Польшчу ад „Заразы Усходу“, якая можа прыйсьці з Радавае Беларусі разам з беларускімі кніжкамі — падручнікамі, якія там інтэнсыўна друкуюцца гражданкай і пранікнуты камунізмам.

Мы і хацелі-б гэтую справу выясьніць, з пункту гледжаньня ня польскага, але чыста беларускага.

Перад усім, назоў „расейскія літары“ зусім не рацыянальны, бо кірыліца ўпярод была пісьмом беларускім, чымся расейскім. Гражданка, ці зрэфармаваная кірыліца, хутчэй можа быць названа „славянска-рускімі“ літарамі. Ня мы ад расейцаў узялі гэтыя літары, а расейцы ад нас, як ад нас узялі яны і друкарскую штуку; бо-ж наагул культура славянска-руская перш разьвілася на Беларусі, а потым толькі ў Маскоўшчыне. Дык гражданка зьяўляецца традыцыйным беларускім альфабэтам, ад якога беларусы ніколі ня могуць адмовіцца.

Што датычыць гістарычных часоў (для п. Смрэчынскага чамусьці даволі імглістых!), дык можам сказаць, што тыя часы, калі культура беларуская гожа цьвіла, мова наша ня толькі была на роўні з другімі, але была вышэйшай за іншыя, бо была мовай урадовай, — калі беларус „панам быў удома і слаўным за морам“—тыя часы для нас прадстаўляюцца сьветлымі і мілымі (а не імглістымі). І таму, што гражданка тады была афіцыяльнай, мы традыцыйна ніколі ня згодзімся замяніць гражданку лацінікай, якая ня мае ніякае гістарычна беларуска-традыцыйнае падставы.

Што з беларускімі падручнікамі, друкаванымі гражданкай у Менску, можа пранясьціся „Зараза Усходу“, могуць думаць толькі людзі, не паважна мысьлячыя. Бо ці-ж можа быць камунізм у падручніку — задачніку ці прыродазнаўстве?..

І хто ж вінен таму, што Польшча давяла беларускую справу да таго, што беларускае выдавецтва пад Польшчай ледзь-ледзь дыхае? І што за наіўны спосаб думаньня, што гэта мае забясьпечыць Польшчу ад уплываў камунізму!..

Увесь гэты паход проці гражданкі, як мы ўжо сказалі, ёсьць адзін з спосабаў апалячываньня беларусаў. Гэта відаць паміж радкоў і з гэтага артыкулу ў „Słowie“, аўтар кажа там: “мы, палякі, ніколі ня можам пазволіць на пасрэднюю русыфікацыю нашых усходніх зямель“. Аўтар не ўпамінае тут навет і слова аб Беларусі ці беларусах; цікавіцца ён толькі тым, каб усходнія землі ня былі зрусыфікаваны,—значыць, трэба іх спольшчыць.

Што за апека! Народ беларускі сам дасьць адпор і русыфікацыі і палянізацыі. І мы не патрабуем дырэктываў зьверху. Народ наш даўно высказаў сваю волю быць гаспадаром у сябе дома; сам-жа ён вырашыць і справу „гражданкі“ ці „лацінікі“. Гэта справа наша—чыста ўнутранага характару, і мы не пазволім, каб нам хто што-небудзь накідаў! Мы не зьяўляемся ворагамі „лацінікі“ і ўважаем, што яна, як часовая, для маласьведамага каталіцкага элемэнту зьяўляецца дужа карыснай. Але ніколі ня згодзімся адрачыся ад свае традыцыйнае „гражданкі“, тым балей, што братнія нам славянска-рускія народы, як украінцы і расейцы, карыстаюцца ею-ж, атрымаўшы яе, як мы зазначылі, ад нас.

**Замах на „гражданку“ мы лічым замахам на самастойнасьць беларускае культуры, за якую мы будзем змагацца да апошняга.**

**М. Дубоўскі.**

сьветам“ акцыі процi „чырвонай небясьпекі“ — у Эўропе і Азыі...

### Няспыняючыся белы тэрор у Баўгарыі.

Пракляты ўсім баўгарскім сялянствам (якога аж 90 проц. насяленьня краю) ўрад Цанкова ня спыняе белага тэрору. Толькі што закончыўся адзін з чарговых палітычных працэсаў „камунустаў“. „Суд“ прысудзіў 33 абвінавачаных на кару сьмерці; 67—у вастрог, рэшту, 19 асоб, апраўдаў.

### Грэцко-Баўгарскі канфлікт.

У сувязі з грэцко-баўгарскім канфліктам грэцкая армія канцэнтруецца ў Македоніі.

### Адзіны фронт нямецкіх партыяў проці Польшчы.

Высяленьне нямецкіх аптантаў (грамадзян) з Польшчы, якіх, як пішуць немцы, выкінулі за апошнія дні аж 20.000, выклікала страшэннае абурэньне ў Нямеччыне. У нямецкім парляманьце і ў прэсе ўсе партыі зрабілі вельмі рэзкія заявы проці гэтага варварскага паступаньня, і наагуль проці польскай дзяржавы.

### Камуністычная літэратура для Польшчы.

„Dzien. Wil.“ піша, што ў Менску выдрукавана маса камуністычнай літэратуры, празначанай для Польшчы.

Літэратура, друкованая пабеларуску, празначана для беларускага сялянства, а друкованая папольску для польскай арміі. Адозвы заклікаюць да гатоўнасьці ў кожную хвіліну прайці на савецкі бок.

## ХРОНІКА.

**У Віленскай Беларускай Гімназіі.** 1-га верасьня пачынаюцца папраўковыя і ўступныя экзамены для вучняў Гімназіі і новапаступаючых у яе.

Сяляне—Беларусы, каму толькі пазваляюць матар'яльныя варункі, пасылайце сваіх дзяцей у беларускія гімназіі, памятуючы, што, чым болей падгатовім свае беларускае інтэлігенцыі, тым хутчэйшым і пэўнейшым будзе нашае нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне; адпаведнае-ж духовае і маральна-нацыянальнае выхаваньне можа атрымаць нашая моладзь толькі ў сваіх родных беларускіх гімназіях!

**Тэрор за беларускую газэту.** „Krynica“ ў № 34 апісвае тыя зьдзекі, якія церпяць ад паліцыі і шпігоў чытачы гэтае газэты ў Казлоўшчынскай гміне, Слонімскага павету.

Ня дзіва: у гэтай гміне „Krynica“ мае ажно 70 падпішчыкаў, якія, хоць каталікі, ніяк ня хочуць перабляцца на палякоў і цьвёрда стаяць за беларушчыну.

**На манэўры.** Праз Вільню праехала шмат розных ваенных прадстаўнікоў розных прыязных да Польшчы краёў, запрошаных да ўчасьця ў вялікіх манэўрах польскай арміі ў Валыншчыне (на радавай граніцы).

**Статыстыка люднасьці Віленшчыны.** Паводлуг апошніх урадовых даных, у Віленшчыне знаходзіцца 1.088.000 асоб, адкуль Палякоў—608.000, Беларусаў—277.500, Жыдоў—119.500, Літвіноў—57.500, Расейцаў—25.500 асоб.

На кожную рэлігію прыпадае: каталікоў—652.000 праваслаўных—284.000, жыдоўскае рэлігіі — 119.500, і іншых—32.500.

З статыстыкі бачым, што лік палякоў вельмі перасолены. Зважаючы на тое, што 1) большасьць каталікоў несьвядомыя беларусы, 2) усе праваслаўныя, за малым выняткам—тыя-ж беларусы,—лік беларусаў павінен быць далёка, далёка большым.

**Напады бандытаў.** У ноч на 6-га жніўня 4 бандыты ў масках зрабілі збройны напад на дом Язэпа Малны ў вёсцы Фіялкаўшчына, Мядзельскай гміны, Дунілавіцкага пав. Пасьля абрабаваньня дому бандыты ўцяклі ўнапрамку Вялейскага пав.

**Забойства паліцыянта.** 4-га жніўня застрэлены паліцыянт 10 кампаніі пагранічнікаў, на становішчы № 2 каля вёскі Вайшнюны, Сьвянцянскага пав. Забойца скрыўся.

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаная Рэдакцыя!*

З тае прычыны, што ў віленскіх газэтах зьявіліся заметкі аб растрэле ў Менску майго мужа—Уладзімера Шалешкі — былога сэкрэтара Віл. Бел. Гімназіі, у імя праўды і аб'ектыўнасьці лічу сваім абавязкам заявіць, што, хаця я сама асабіста лістоў ад Уладзімера Шалешкі не атрымоўвала, маю перакананьне, што ён жывы. Перакананьне гэнае вынікае з яго лістоў, пісаных да крэўных, якія я сама чытала.

Прашу ўсе газэты, якія падавалі заметкі ў справе Ул. Шалешкі, зьмясьціць вышэй паданае — ці то ў форме ліста, ці інфармацыяў, вынікаючых з яго.

З пашанай **Аўгеньня Шалешка.**

# Беларусы у Літве.

### Беларускі Нацыянальны Камітэт.

(Бюлетэнь № 1 Нацыянальнага Камітэту ў Літве).

27-га ліпня б. г. ў м. Коўне ў памешканьні гімназіі „Аўшра“ адбыўся агульны сход беларусаў дзеля заснаваньня „Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Літве“. На сходзе было прысутных звыш 30 асоб.

Старшынёю сходу быў абраны грам. Цьвікевіч, за сэкрэтара грам. Гузьней. Сход заслухаў шэраг справаздач—аб агульным становішчы беларускае справы, аб становішчы ў краю, аб заданьнях арганізуемага камітэту.

Пры завязаўшайся дыскусыі падпаў рэзкай крытыцы сучасны напрамак палітыкі ў віленскім пытаньні, характэрызуемы адсутнасьцю працы і цьвёрдага шырокага пляну.

Пасьля дакладаў і дыскусыі адбыліся выбары. У склад Камітэту ўвайшлі: старшынёю — інж. Галавінскі, віцэ-старшынёю—былы пасол да Варшаўскага Сойму—С. Якавюк, сэкратаром—грам. Гузьней. Сход вітаў воплескамі прысутнага ў залі рэдактара газэты „Летува“ д-ра Пурыцкага.

Па пытаньню аб беларуска-літоўскіх узаемаадносінах сход вынес гэткую рэзалюцыю:

„Агульны сход беларусаў у Літве горача вітае спробы прадстаўнікоў літоўскага грамадзянства ўстанавіць нанова добрыя адносіны з беларусамі і ўзнавіць арганізаваную супольную барацьбу супроць захапленьня Польшчай Вільні, беларускіх і літоўскіх абшараў. Сход пастанаўляе падтрымаць усімі захадамі гэтыя спробы, калі яны будуць шчыры і сур'ёзны і будуць грунтавацца на прынцыпе роўнасьці абедзьвюх умаўляючыхся старон. Сход выказывае надзею, што новы напрамак будзе ў свой чарод падтрыманы ўсім літоўскім грамадзянствам незалежна ад партыйных групіровак. Разам з тым сход заяўляе, што цяперашняя літоўская палітыка ў віленскім напрамку, пацягнуўшая разрыў паміж абедзьвюма старонамі, мае сілу яшчэ і да сёньня, дзеля чаго яшчэ зарана казаць, аб устанаўленьні актыўнага беларуска-літоўскага супрацоўніцтва“.

Сход даручыў Камітэту ўвайсьці безадкладна ў цесную сувязь з краёвымі і закардоннымі беларускімі арганізацыямі па пытаньням бягучай палітыкі і ў тым ліку па пытаньню аб скліканьні 2-ой агульна беларускай канфэрэнцыі.

Камітэту даручана: прывітаць старшыню літоўскага „Таварыства Адратаваньня Вільні“, грам. Біржышко, паслаць прывітаньні Беларускаму Пасольскаму Клюбу ў Варшаўскім Сойме, беларускім калёніям у Латвіі і Празе і прыступіць да рэгістрацыі беларусаў у Літве.

### Прывітаньне Беларускаму Пасольскаму Клюбу ў Польскім Сойме.

Па даручэньню агульнага сходу беларусаў у Літве ад 27-га ліпня б. г. гэтым маю гонар прывітаць Вас — слаўных змагароў за нацыянальныя і сацыяльныя правы Беларускага Народу.

Мы пераконаны, што Вашая вельмі ўплывовая і падтрыманая ўсім жыхарствам Заходняй Беларусі і беларускім грамадзянствам закардонам праца зьяўляецца моцным грунтам шырока разьвіваючагася Беларускага Адраджэньня і лепшым спосабам дзеля асягненьня нашай вялікай ідэі — заняць пачэснае месца сярод вольных народаў.

Падымаючы свой незалежны голас, — Беларускі Нацыянальны Камітэт у Літве, адзіная тут грамадзкая беларуская арганізацыя, сьведчым Вам сваю гатоўнасьць служыць гэтай ідэі ў меру нашае магчымасьці і тым самым быць у шэрагу іншых незалежных нацыянальна беларускіх сіл.

Старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Літве—А. Галавінскі. Віцэ Старшыня—Якавюк. Сякрэтар Камітэту—Я. Гузьней.



Выдавец: **Я. Туркевіч.**

Друкарня **Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.